

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№ 19 (100). 6 — 12 траўня 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 25 тыс. руб.




**НАВІНЫ**

## Миллионеры, понимаешь...

**С 30 апреля 1999 года Национальный банк Беларуси вводит в обращение новый расчетный билет достоинством 1 миллион рублей.**

На лицевой стороне банкнота изображено здание Национального художественного музея Республики Беларусь; на оборотной – фрагмент картины Ивана Хруцкого «Портрет жены с цветами и фруктами».

## Рабочему больше — врачу меньше

**После повышения размера минимальной заработной платы работники бюджетной сферы Беларуси будут получать не менее 4 миллионов 580 тысяч рублей в месяц.**

По словам первого заместителя министра труда Беларуси Валерия Павлова, в целом по народному хозяйству зарплата должна составить порядка 15 миллионов рублей.

Сейчас доходы бюджетников составляют около 60% от уровня зарплаты в промышленности.

БелаПАН

## Новыя званні

**Датэрмінова званне "маёр міліцыі" прысвоена начальніку аператыўна-дзяжурнай службы Слонімскай міліцыі Міхаілу Іванцову.**

Званне "лейтэнант міліцыі" прысвоена ўчастковым інспектарам Яўгену Ярашэнкаву і Аляксандру Кашэні.

## У НАС ЮБІЛЕЙНЫ НУМАР

**Гэтым разам мы выпусцілі ў свет соты нумар "Газеты Слонімскай". Мінула крыху болей за два гады з таго дня, як чытачы ўпершыню ўбачылі наша выданне. Ішоў час, газета станавілася больш сталай, а разам з ёй і мы — супрацоўнікі рэдакцыі. Калі напачатку газету выпускалі тры чалавекі, то цяпер нас — дванаццаць. Аднак і гэтай камандай мы б не зрабілі "ГС" такой, якой цяпер яна ёсць, без цябе, Чытач. Ты падказваў і падказваеш нам тэмы, раіш, крытыкуеш — дапамагаеш газеце. За што мы Табе вельмі ўдзячны. Удзячны і за тое, што Ты выбраў "ГС". У сваю чаргу мы абяцаем рабіць газету цікавай, хаця праблем у нас хапае, як і ўсюды. Пастаяннае павышэнне цэн на паперу, друкарскія паслугі вымушаюць нас павялічваць кошт на газету, на рэкламу. Тым не менш, "ГС" ні ў якім разе не збіраецца адмаўляцца ад сваіх планаў. У хуткім часе мы будзем пастаянна выходзіць на 12 старонках. Гэта дазволіць пашырыць тэматыку публікацый, выпускаць нумары больш разнастайнымі.**

РЭДАКЦЫЯ



**НАВІНЫ**

## Каждому директору — по удостоверению

**Совет Министров Беларуси утвердил порядок выдачи удостоверений руководителям юридических лиц — коммерческих и некоммерческих организаций, которые будут выдаваться регистрирующими органами и станут документами, подтверждающими полномочия руководителя.**

Получить удостоверения будут обязаны руководители всех юридических лиц, независимо от формы собственности, в течении десяти дней с момента назначения их на должность. Руководителям уже действующих субъектов хозяйствования удостоверения будут выдаваться по мере перерегистрации возглавляемых ими организаций.

Плата за выдачу удостоверений установлена в размере одной месячной минимальной зарплаты, которая с 1 мая составит один миллион рублей.

БелаПАН

## Машкара "з'ела" 20 кароў

**Каля 300 галоў прыватнай і калгаснай жывёлы захварэла на Слонімшчыне ад укусаў ядавітай машкары. Дваццаць кароў давялося ўжо прырэзаць.**

Пра гэта карэспандэнту "ГС" паведаміў галоўны ветурач раёна Мікалай Крупскі.

Па яго словах, з надыходам халоднага надвор'я актыўнасць машкары трохі спынілася, а к канцу траўня пагроза для жывёл знікне зусім. Але на сённяшні час вельмі шмат машкары на забалочанай мясцовасці, каля рэк і лясоў, дзе звычайна і пасвіцца жывёла. У першую чаргу ядавітая машкара пагражае жывёле калгасаў "1 Мая", "Перамога", "Кастрычнік", "Уперад" і саўгасу "Маладая гвардыя".

Сяргей ЧЫГРЫН

## Смаргонская дапамога

**Слонімскаму кардонна-папяроваму заводу (КПЗ) вырашыў дапамагчы сыравінай Смаргонскі райвыканкам.**

Улады Смаргоні прынялі рашэнне аб нарыхтоўцы макулатуры для слонімскага КПЗ. Сёлета яе запланавана сабраць 360 тон. Нормы даведзены ўсім арганізацыям і прадпрыемствам раёна. Напрыклад, аддзел адукацыі мусіць сабраць 20 тон, а ліцэй-намеханічны завод — адну тону...

Сяргей ЁРШ

# ПЕРШАМАЙ НА ПЕРШАМАЙСКАЙ

Першамай у Слоніме быў немнагалюдным. Людзям цяпер не да святаў: настала пара капаць, садзіць і сеяць. А тыя, хто ўсё ж прыйшоў (кожнаму прадпрыемству і ўстанове было загадана адправіць на Першамай па пяць чалавек) пачулі выступленні мясцовых начальнікаў, бэпээсмаўцаў, камуністаў, якія ўсіх віншавалі і жадалі шчасця.

Гучалі ў гэты дзень і песні. Слухалі артыстаў некалькі дзесяткаў слонімцаў сталага ўзросту. Бо моладзь, відаць, згубілася дзесьці на рынку, які здзіўляў іх у першы дзень траўня новымі цэнамі і курсамі валют.



Сяргей ЧЫГРЫН
Мікалай СУПРУН (фота)





**ЗДАРЭННІ**

## "Пагарэў" на ста далярах

**Супрацоўнікі абласной пракуратуры па падазрэнню ў вымаганні 100 даляраў затрымалі ўчастковага інспектара Слонімскага аддзела міліцыі Мікалая Якацука.**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" намеснік абласнога пракурора Вячаслаў Пятушок, супраць Якацука ўзбуджана крымінальная справа і вядзецца следства.

## Прыйшоў, выпіў, украў...

**10 кілаграмаў сала ўкраў у свайго знаёмага 51-гадовы жыхар вёскі Жыровічы.**

Зрабіў ён гэта пасля таго, як добра выпіў з гаспадаром.

Валянцін ЧУРЫЛА

## Міны зноў не было

**30 красавіка зноў быў "замініраваны" слонімскі вакзал.**

Як і раней, сапёры не знайшлі выбуховага прыстасавання. А на час, пакуль яго шукалі, рух транспарту каля вакзала быў перакрыты.

Сяргей ЁРШ

**ИНФОРМБЮРО**

## Выдача кредитов ограничена

***В связи с чем АСБ "Беларусбанк" повысил процентные ставки с 45% до 55% на потребительские кредиты?***

**Раиса МАРКЕВИЧ, Слоним**

Как сообщила корреспонденту "ГС" директор Слонимского филиала АСБ "Беларусбанк" Нина Авдейчик, в настоящее время выдача кредитов населению осуществляется из собственных ресурсов банка, а не из средств Нацбанка РБ, как это было раньше.

В связи с увеличением ставки кредитования в Нацбанке РБ, с 1 мая 1999 года процентные ставки на получение потребительских кредитов в АСБ "Беларусбанк" увеличены до 60% годовых. Поскольку в последнее время Слонимский филиал "Беларусбанка" не имеет собственных средств, выдача кредитов ограничена.

Валентин ЧУРИЛО

# АХВЯРАВАЦЬ ЗА БЕЛАРУСЬ

**Як паведамляла «ГС», 25 красавіка ў Гродне прайшло несанкцыяніраванае шэсце моладзі, прымеркаванае да чарговых угодкаў чарнобыльскай катастрофы. Акрамя таго, маладыя людзі, якія з'ехаліся сюды з усёй краіны, пратэставалі супраць запланаванага аб'яднання Беларусі з Расіяй. Бо менавіта ў Гродне мусіць адбыцца сумесная нарада беларускіх і расійскіх парламентарыяў.**

Шэсце было разагнана міліцыяй і АМАПам, якія ўжывалі слёзатачывы газ, дубінкі і прыклады аўтаматаў. Некаторыя з дэманстрантаў былі жорстка збіты. Іх працягвалі біць нагамі, кулакамі і ў машынах, якія везлі іх у пастарунак. Дасталося і міліцыі... Чатырнаццаць хлопцаў трапілі за краты. Сярод затрыманых было некалькі слонімцаў. Адзін з іх, які правёў за кратамі чацвёра сутак, распавёў пра жудасныя ўмовы ўтрымання зняволеных.

— У ізалятар часовага ўтрымання мяне прывезлі ў наручніках, — расказвае ён, — забралі ўсе рэчы, распранулі, абшукалі. Я папрасіў выклікаць урача, каб зняць пабоі, але мне адмовілі. Не дазволілі і патэлефанаваць родным, паведаміць, дзе знаходжуся...

Міліцыянеры "пад капірку" пісалі пратаколы. Нібыта я быў п'яны і "ругался матом". Гэта былі стандартныя абвінавачванні для ўсіх. Але ж я не быў п'яны! Узяць у мяне аналізы, каб гэта падцвердзіць, яны не захацелі. Пратакол я не падпісаў. Толькі напісаў, што з яго зместам не згодзен. Да раніцы быў у камеры, дзе акрамя мяне знаходзіліся восем чалавек. Раніцай завезлі ў суд Ленінскага раёна г.Гродна. Выклікае суддзя: "Што, не згодзен з пратаколам? Тады будзем выклікаць сведкаў." А сведкі, міліцыянеры, нейкія ў цывільным, хлусілі проста ў вочы. Суддзя ж раздаваў суткі: каму двое, каму трое. Мне даў чацвёра. Напэўна таму, што быў збіты больш за іншых — яны спадзяваліся, што праз чатыры дні, пасля вызвалення, буду выглядаць лепш. Нібыта і не моцна яны мяне білі...

Павезлі мяне ў прыёмнік-размеркавальнік. У камеры 1,20х3 м нас было трое. Міліцыянер адразу ўзяў з маіх грошай 200 тысяч на "штраф" (за кожны дзень адсідкі — па 50 тысяч рублёў). Сказаў, што іх "паслугі" каштуюць грошай. Тут жа паведамілі, што з камеры нас выводзіць не будуць.

Два дні нас не кармілі. Калі ў панядзелак прывезлі з суда, то сказалі, што на абед мы спазніліся. У аўторак увесь дзень мы таксама галадалі. Вечарам, нарэшце, далі супу, па дзве лыжкі кашы і па паўбохана хлеба на чалавека. У апошні дзень нашу камеру пакінулі без хлеба. "Сказалі, вам не даваць,"— прызнаўся ахоўнік. Тады з намі падзяліліся хлебам хлопцы з суседняй камеры.

Некалькі сутак ляжалі на голых дошках: холад, скразнякі. Фортка ў акне камеры была выбіта. Мёрзлі без цёплай вопраткі. Пра нейкую гігіену і гаворкі быць не магло. Чатыры дні не галіўся і не мыўся (змыў толькі кроў з твару).

Усё рабілася з мэтай маральна-псіхалагічнага ціску на мяне і маіх сяброў. На допытах следчы палохаў крымінальнай справай, якую, нібыта, на мяне і іншых хлопцаў могуць завесці. «За Беларусь я гатовы ахвяраваць сваёй свабодай і здароўем», — адказаў я яму.

На волю адпусцілі ў чацвер у 20.45. Далі паперку, што заплаціў штраф. «Дайце, — кажу,— даведку, што ў вас сядзеў». «Даведкі даюць у трэцім кабінеце з 9 да 17.00». Чакаць раніцы не хацелася, паехаў у Слонім.

**Запісаў Сяргей ЁРШ**

# ЦІ БУДЗЕ КЛУБ У ВЕРАБ'ЕВІЧАХ?

**Не так даўно клуб вёскі Вераб'евічы быў даволі ажыўленым месцам сялянскага жыцця. Там працавала бібліятэка, праводзіліся розныя мерапрыемствы, гучала музыка, людзі танчылі. Вечарам, пасля працы, многія вяскоўцы прыходзілі сюды, каб проста адпачыць, згуляць у шахматы ці даміно. Цяпер там ціха і бязлюдна. Будынак клуба амаль разбураны, даўно з'ехала адсюль бібліятэка.**




*Так выглядае Вераб'евіцкі клуб сёння*

— Усё пачалося з таго, што ў клубе прагніла падлога, — сказаў Аляксандр Курган. — Мая жонка Анфіса да апошняга часу працавала там загадчыцай. Аднак замест таго, каб зрабіць рамонт, клуб зачынілі. Нядаўна на ферме праходзіў брыгадны сход вёскі Вераб'евічы, і мы звярнуліся да старшыні сельсавета Васіля Падрэцкага і старшыні калгаса "Перамога" Аляксандра Рахунка з просьбай адрамантаваць клуб. Аднак абодва кіраўнікі адмахнуліся ад гэтага пытання.

Размову падтрымала Марыя Кабарда:

— Клуб пачаў працаваць неўзабаве пасля вайны, — сказала яна. — Вечарамі хлопцы і дзяўчаты там бавілі свой вольны час. Усіх юнакоў урачыста праводзілі ў войска. А што мы бачым зараз? Моладзь ходзіць з аднаго канца вёскі ў другі і не можа знайсці сабе занятак, — сказала жанчына.

Старшыня Васілевіцкага сельсавета Васіль Падрэцкі паведаміў, што будынак клуба ніколі не стаяў на балансе выканкама, а з'яўляецца ўласнасцю калгаса "Перамога". Пасля таго, як у 1995 годзе аддзел культуры райвыканкама скараціў пасаду загадчыка, клуб фактычна перастаў працаваць.

Старшыня калгаса "Перамога" Аляксандр Рахунок паведаміў, што памяшканне былога клуба ў цяперашні час выдзелена сям'і калгаснага механізатара пад жыллё.

Загадчык раённага аддзела культуры Анатоль Цярэнін паведаміў наступнае:

— Сапраўды, у 1995 годзе была ліквідавана пасада загадчыка сельскага клуба вёскі Вераб'евічы, і клуб быў закрыты. У 1998 годзе да старшыні райвыканкама звярнулася група жыхароў вёскі Вераб'евічы з просьбай аб аднаўленні работы клуба. Аддзел культуры падтрымлівае ініцыятыву сялян, і, як толькі калгас "Перамога" адрамантуе памяшканне, будзе неадкладна зацверджаны штат работнікаў клуба, — запэўніў спадар Цярэнін.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ФОТА МІКАЛАЯ СУПРУНА** *Слонім: нашы людзі*







**НАВІНЫ**

## Усе на суботнік

**Мастоўская арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) падала заяву ў мясцовы райвыканкам на дазвол правесці дабрачынны суботнік на будаўніцтве катэджаў для начальства.**

Такое рашэнне сябры партыі прынялі пасля таго, як улады адмовілі правесці мітынг, прысвечаны дню Працы. У той жа паперы ім параілі "адзначыць гэтае свята шчырай працай на карысць горада і раёна на добраўпарадкаванні вуліц або іншых аб'ктаў сацыяльнага прызначэння". Сябры арганізацыі не разгубіліся і вырашылі прыняць гэтую прапанову. Дэмакраты 15 траўня падрыхтаваліся папрацаваць на новабудоўлях катэджаў старшыні райвыканкама Аляксандра Кісялёва, яго першага намесніка Адама Кавалька, начальніка міліцыі Мечыслава Улана ды генеральнага дырэктара АТ "Мастоўдрэў" Віктара Бурага.

Зароблены грошы мяркуюць пералічыць у гарадскі бюджэт на асфальтаванне вуліцы Багдана Хмяльніцкага.

**Антон МАКЕЙ**

## Якая дарагая цацачка...

**На цэнтральнай прахадной акцыянернага таварыства "Мастоўдрэў" пачаў працаваць электронны вартаўнік.**

Па неафіцыйных звестках, кошт абсталявання і яго наладка абышліся прадпрыемству каля 50 тысяч даляраў.

Тым часам, як у некатоых цэхах і па сённяшні дзень стаіць даваеннае абсталяванне, а ў сушыльным цэху ўжо каторы год запар працякае страха.

**Антон МАКЕЙ**

## Из Минска прямо в Африку

**Каир стал первым городом в Африке, с которым Беларусь установила регулярное воздушное сообщение.**

Первый рейс по маршруту «Минск-София-Каир-София-Минск» был выполнен экипажем самолета ТУ-134 национальной авиакомпании «Белавиа» 29 апреля. Регулярные полеты из минского аэропорта по новому маршруту будут осуществляться еженедельно по четвергам.

**БелаПАН**

## Книга Семёна Шарецкого

**В белорусской столице вышла в свет книга председателя Верховного Совета 13-го созыва Семена Шарецкого «Трагедия Беларусі, або Што такое сапраўдны лукашызм».**

По мнению спикера, «лукашизм, как называет новое появление диктаторского режима в Беларуси сам народ, — это не просто поведение неуравновешенного по характеру президента Беларуси и его соратников, а общественное и политическое явление, которое начало приобретать международную силу. Лукашизм — это новый рецидив диктаторского режима в современных европейских условиях, это смесь фашизма, сталинщины и махрового популизма. И если не принять срочных мер, то, как раковая опухоль, он начнет не только усиливать свою власть в Беларуси, но и будет все время стараться распространить ее и на другие регионы». Во вступительном слове С.Шарецкий выражает надежду, что его книга «поможет читателям более четко понять, что такое лукашизм».

**БелаПАН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 5 траўня 1999г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.000 экз.
Заказ № 1326
© «Газета Слонімская» Спасылка на «ГС» абавязковая
® Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

НАШЕ ИНТЕРВЬЮ

# "СЕЙЧАС ВМЕСТО ВСЕВЛАСТИЯ КПСС – ВСЕВЛАСТИЕ ВЕРТИКАЛИ"



**На прошлой неделе прошли организационные сессии городского и районного Советов нового созыва.**

**Председателем горсовета избран Войцех Угринович (бывший заместитель председателя горисполкома), а райсовет возглавил Павел Кежук (бывший директор совхоза "Победитель").**

**Депутатский корпус Совета обновился более чем наполовину. Некоторые бывшие депутаты отказались баллотироваться по принципиальным соображениям, в том числе и Михась Варанец. Сегодня с ним беседует корреспондент "ГС".**

***— Михась, как ты оцениваешь итоги выборов в местные Советы, которые состоялись в Слониме 4 апреля?***

— Демократы не выдвигали своих кандидатов и даже не контролировали выборы. Это были не выборы, а формальное голосование за назначенных исполнительной властью кандидатов. Даже местные Советы, вполне лояльные режиму, были отстранены от избирательного процесса. Доходило до абсурда. 29 декабря 1998 года Слонимский городской Совет установил количество избирательных округов по выборам в местные Советы и среднее количество избирателей в избирательном округе. Все расчеты подготовила местная вертикаль, хотя горсовет ей этого не поручал и не мог поручить: новый избирательный закон был опубликован и вступил в силу только в этот день, т.е. 29.12.98 года и, естественно, никто из депутатов его даже не читал.

***— На твой взгляд, насколько правильным было решение оппозиции не участвовать в этих выборах?***

— Оппозиционных кому и чему? Где и когда ты видел "позицию" у наших начальников. У них позиция меняется моментально со сменой власти в столице. Они вместе с президентом, который их назначает на должности, довели до обнищания многих людей. Это они находятся в оппозиции — к народу. Боясь ответственности за содеянное, они узурпировали власть и превратили выборы в показное шоу с заранее предопределенным результатом.

Участие демократических сил в таких выборах означало бы подыграть нынешним властям в их "играх" без принципов и правил.

***— 29 апреля истек срок полномочий городского Совета 22 созыва, депутатом которого ты был. Как бы ты охарактеризовал работу Совета?***

— В Беларуси сейчас сформировалась типично "советская" система власти, когда представительные органы мало что решают. Только сейчас вместо всевластия КПСС — всевластие вертикали.

В этих условиях Слонимский городской Совет сделал меньше того, на что имел полномочия, но больше, чем того хотела вертикаль.

***— А что ты можешь сказать в связи с этим о деятельности своих коллег депутатов?***

— В нашем городском Совете работали неплохие люди. Не было агрессивности, навешивания ярлыков... Конечно, ближе всего мне были мои товарищи по депутатской комиссии Константин Ремез и Владимир Ильин.

Другое дело, что хороший человек и хороший политик — не всегда одно и тоже. Но пусть депутатов, как политиков, оценивают избиратели.

***— А председатель Совета? Ведь его выбирают депутаты, в том числе и ты...***

— Да. Это единственная оплачиваемая депутатская должность. Все остальные депутаты выполняют свои обязанности на общественных началах.

С бывшим председателем горсовета Николаем Васильевичем Лишиком у меня были нормальные рабочие отношения. Думаю, что из всех депутатов это была наиболее достойная кандидатура на этот пост. Хотя Лишик был выдвиженцем председателя горисполкома Олега Лактюшина.

***— А почему, в таком случае, Николай Лишик не остался в Совете на второй срок?***

— Я с председателем Совета чай не пил, но, как мне кажется, Николай Васильевич оказался, неожиданно для вертикали, порядочным человеком.

***— Будучи депутатом, что тебе удалось сделать, что нет?***

— Каждому жителю моего бывшего избирательного округа я представил письменный отчет о своей депутатской работе. Сейчас я хоть и не депутат, но буду стремиться довести до логического завершения то, что начал, будучи в Совете. А если конкретно, то на последней сессии горсовета я предложил ликвидировать взаимозависимость между доходами милиции и суммами штрафов (согласно решению городских властей, отделу внутренних дел отчисляется 20% от сумм штрафов, взысканных сотрудниками отдела за административные правонарушения — **ред.**). Ведь при наличии такой взаимосвязи не исключена настоящая "охота" за гражданами со стороны сотрудников милиции с целью дополнительного финансирования. Замечу, что подобная практика "финансирования" милиции не действует на территории района. Райисполком и райсовет таких решений не принимали. Примечательно, что когда на сессии меня поддержала заведующая горфинотделом Тамара Хворик, сразу же среагировал начальник милиции Мечислав Батура. Он возразил, что "предложение Хворик неприемлемо. Ведь я уже запланировал...". Надо полагать, что в 1999 году жители Слонима обязательно совершат правонарушения на запланированную полковником милиции Батуро сумму...

***— Твое отношение к президентским выборам, которые намечены на 16 мая?***

— Нормальное. Я член инициативной группы кандидата в президенты Беларуси Чигиря, хотя и довольно критически к нему отношусь.

Ненормальным является то, что исполнительная власть мешает людям выявить свою волю.

**Анатолий МИРСКИЙ**

Грамадская праваабарончая прыёмная вядзе прыём грамадзян па пытаннях парушэння правоў чалавека з 9.00 да 13.00 штодня, за выключэннем выхадных, па адрасе: вул.Міцкевіча, 20.

## Абралі старшыню агульным "адабрамсам"

**У Мастах прайшла арганізацыйная сесія Савета народных дэпутатаў апошняга склікання.**

На ёй старшынёй райсавета абраны дырэктар саўгаса "Мастоўскі" Георгій Каробка. Трэба адзначыць, што гэта гаспадарка па эканамічных паказчыках займае адно з апошніх месцаў у раёне.

**Антон МАКЕЙ**

## На якіх вуліцах мы жывём?

Неяк, трапіўшы на вуліцу Вясёлую, пачуў размову дзвюх жанчын:

— Што гэта за назва такая, калі вуліца вузкая, цёмная і ўся ў калдобінах? — сказала адна з іх.

— Відаць, таму і назвалі яе Вясёлай, — іранічна заўважыла яе сяброўка.

Міжволі мне падумалася: сапраўды, колькі вуліц Слоніма носяць такія недарэчныя назвы?

Вось, напрыклад, ці добра жывецца ветэранам будаўніцтва светлай будучыні на Сацыялістычнай, Камуністычнай, 1-ай Сямігодкі, Камсамольскай, імя 50 год ВЛКСМ, Карла Маркса і іншых вуліцах?

Ёсць у Слоніме і такія назвы вуліц: Цагляная, Калгасная, Чыгуначная, завулак Водаправодны. Цікава, а што думаюць на гэты конт работнікі вінзавода, хлебазавода, гарвыканкама... А якую назву можна было б даць вуліцы Кірава, якая знаходзіцца непадалёку ад ачысных збудаванняў? Сваю заўвагу могуць выказаць і прадстаўнікі БНФ, бо ў Слоніме ёсць вуліца Камуністычная, а вось Бэнээфаўскай няма.

Разумею, у горадзе, дзе так ашчадна расходуецца кожны рубель, перайменаванне вуліц патрабуе немалых выдаткаў. Але рана ці позна ўсё ж давядзецца назвы некаторых вуліц мяняць. "Але ж гэта наша гісторыя, з якой нічога не выкрасліш", — могуць сказаць некаторыя. Але тады — дзе гісторыя больш даўняя і старажытная? Ці ёсць у Слоніме, напрыклад, вуліца імя Ефрасінні Полацкай ці Кастуся Каліноўскага...

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Когда же мы будем пить чистую воду?

Уважаемая редакция, может, вы пробьете стену молчания директора так называемого акционерного общества "Водоканал". В частности, мы хотим узнать, когда же, наконец, население города будет обеспечиваться чистой водой?

Создается мнение, что водоканалу выгодно нагонять кубометры, которые сегодня стали стоить дороже газа, что получаем за тысячи километров. Почему за такую, с позволения сказать, воду, мы должны платить по 8 тысяч рублей за кубометр? Приходиться сливать в раковину десятки кубов грязи, перед тем, как польется чистая вода. Может это выгодно водоканалу, т.к. деньги текут рекой за ржавчину.

На наши телефонные звонки в аварийную службу предприятия получаем один и тот же ответ: "Мы приняли вашу заявку"... И снова течет грязь.

В связи с этим предлагаем отделить оплату за воду от платы за квартиру и другие коммунальные услуги, чтобы можно было игнорировать оплату за грязь.

**Елена Алексеевна ВЛАСОВА**

# СЛОНІМСКІЯ ДАЎГАБУДЫ

Практычна, у кожным горадзе ёсць такая з'ява, як даўгабуды. Яны хаваюцца на ўскраінах, стаяць у цэнтры. Да іх мы хутка прывыкаем і рэдка звяртаем увагу на пакінутыя будынкі. Але яны існуюць, жывуць сваім жыццём і разбураюцца. Высвятляецца, што будуюць у нас доўга не таму, што не ўмеюць, а таму, што не хапае грошай...

Калісьці ў Слонім прыйшла добрая вестка — будзе ў горадзе крыты рынак. Шпарка пачалі яго будаваць, але далей тэмпы ўсё змяншаліся і змяншаліся. Вось і сёння рынак не дабудаваны. Па словах старшыні райспажыўсаюза Сяргея Рагозіка, неўзабаве будаўнічыя работы на гэтым аб'екце адновяцца. Тут працуюць лідскія будаўнікі. Калі ў мінулым годзе было асвоена 1 мільярд 300 мільёнаў рублёў, дык сёлета плануецца асвоіць каля 10 мільярдаў рублёў. Больш таго, аб'ект уведзены ў адмысловую рэспубліканскую праграму, а гэта дае надзею на тое, што некалі ён будзе закончаны.

А вось калі будзе дабудаваны будынак гандлёвага цэнтра па Брэсцкай вуліцы — невядома. Начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва гарвыканкама Міхаіл Лукашэвіч гаворыць, што гэта будаўніцтва закансервавана. Прычына тая ж — няма сродкаў... Многія вокны і дзверы гандлёвага цэнтра закрытыя кратамі, але, як аказалася, трапіць у яго не цяжка, бо хапае і адкрытых уваходаў. У гэтым мы пераканаліся самі. Унутры будынак выглядае жахліва: усюды бітая цэгла, у некаторых месцах сцены праламаныя. Выдатны павільён, каб здымаць працяг фільма "Руіны страляюць...". У той дзень тут мы засталі трох юнакоў. Аказалася, што на будоўлі яны "гуляюць", а больш ім гуляць няма дзе...

На стадыёне даўно ўжо будуецца лёгкаатлетычны комплекс. У свой час закончыць яго не хапала сродкаў, а цяпер ужо многія вокны павыбіваны. Давя-дзецца і іх устаўляць. Па словах М. Лукашэвіча, будаўнічыя работы адновяцца сёлета.

Была надзея ў слонімскіх акцёраў, што будзе ў іх свой будынак тэатра. Але зноў жа не хапіла грошай на рэканструкцыю былога РДК на вуліцы В. Крайняга. Гадамі стаіць будынак у руінах, рэгулярна падчас суботнікаў тут прыбіраецца смецце, а зруху няма...

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**



Драматычны тэатр



Рынак



Гандлёвы цэнтр на Брэсцкай вуліцы



Лёгкаатлетычны манеж

# ОТ СУДА НЕ УБЕЖАЛ

**Недавно в Слонимском суде рассматривалось уголовное дело в отношении 29-летнего слонимчанина Александра Зарецкого в совершении злостного хулиганства. На первый взгляд ничем особенным оно не отличалось от других уголовных дел, если не учитывать то, что прошло полтора года с момента совершения преступления и днём судебного разбирательства.**



Фото Irex/ProMedia

Впрочем, обо всём по порядку.

В один из тёплых августовских дней 1997 года Александр Зарецкий вместе со своей женой был приглашён в гости. Всего было в тот вечер вдоволь: спиртного, закуски и веселья. Но сколько не будь в гостях, пора и честь знать. Через некоторое время Зарецкий навеселе добрался с женой домой. Время было не позднее, и, после отдыха, хмеля у Александра поубавилось, и он решил, что не мешало бы и добавить. Тихонько оделся и вышел из дома.

Минут через двадцать Александр уже сидел за столом. Приняв изрядную дозу водочки, он направился домой. По пути созрела мысль зайти ещё к своей знакомой, но затуманенная голова туго соображала, куда надо идти. Как позже выяснилось, перепутав и улицу, и дом, Зарецкий направился в один из подъездов дома по улице Васи Крайнего.

Надо же было такому случиться, что хозяйка одной из квартир открыла дверь, чтобы выпустить во двор своего кота. В этот момент Зарецкий и ввалился в прихожую. Испуганная женщина пыталась выпроводить за дверь незваного гостя. Но не тут то было. Его, Зарецкого, какая-то женщина выталкивает за дверь? Развернувшись, он нанёс ей несколько ударов рукой в лицо. На шум прибежал муж и тоже попытался удалить пьяного мужчину из квартиры. Озверевший хулиган сбил его с ног и, усевшись верхом, стал наносить пожилому человеку удар за ударом. К счастью супругов, на помощь подоспели соседи, которые оттащили обезумевшего от злости Зарецкого и вызвали милицию.

Следователь, который вёл предварительное следствие по делу Зарецкого, не счёл необходимым арестовывать хулигана, ограничившись подпиской о невыезде. Но напрасными были попытки суда вызвать Зарецкого через некоторое время на судебное заседание. Оказалось, что Александр пустился в бега в неизвестном направлении. Дело было отложено на неопределённый срок, а в отношении Зарецкого объявили розыск.

Беглеца нашли российские сыщики в Алтайском крае. Почти год Зарецкий скитался по пересыльным изоляторам, пока его доставили в Беларусь.

На суде Зарецкий понял абсурдность своего положения. Ведь за время, которое он находился в бегах, была объявлена амнистия, которая могла коснуться и его. В данном же случае суд приговорил его к двум годам лишения свободы.

**Валентин ЧУРИЛО**

## Справу можа вырашыць суд

***У доме жылі два браты-удаўцы — Аляксандр і Кастусь П. Я іх родная пляменніца. Пры жыцці дзядзька Аляксандр, на якога быў афармлены дом, збіраўся пакінуць яго ў спадчыну мне і сваёй дачцэ. На жаль, ён не паспеў гэта зрабіць ... Пасля яго смерці ў сельсавеце мне паведамілі, што дом аўтаматычна пераходзіць яго брату. У мінулым годзе памёр і дзядзька Кастусь, а дом афармiла на сябе дачка дзядзькі Аляксандра.***

***Ці маю я права на частку дома?***

**Алена Герасімчык, Кастровіцкі сельсавет**

Фармальна вы маеце права на частку дома, як спадчынніца трэцяй чаргі, бо размова, верагодна, ідзе аб сумеснай уласнасці (арт. 111 Грамадзянскага Кодэкса РБ). Дачка дзядзькі Аляксандра мае права на спадчыну 1/2 часткі дома, а пасля смерці і дзядзькі Кастуся — на 1/2 часткі яго долі. Астатняя частка дома па закону (арт. 527 Грамадзянскага Кодэксу РБ) павінна быць вашай, калі няма іншых спадчыннікаў другой чаргі.

Калі хочаце адстаяць свае правы, то трэба звярнуцца з іскам у суд аб падзеле дома, заплаціўшы дзяржпошліну.

## Каков порядок постановки граждан, сдающих внаем помещения, на учет в ИГНК?

В соответствии с Законом РБ "О подоходном налоге с граждан", деятельность граждан по сдаче внаем помещений приравнивается по налогообложению к предпринимательской деятельности, направленной на получение личного дохода, осуществляемой от своего имени, на свой риск и под свою имущественную ответственность.

Согласно Закону РБ "О налогах и сборах, взимаемых в бюджет Республики Беларусь" граждане, извлекающие доходы от сдачи внаем помещений, обязаны стать на налоговый учет в качестве налогоплательщика в налоговой инспекции по месту прописки.

Для заключения договора поднайма помещения граждане в обязательном порядке обращаются в ЖЭС по месту нахождения сдаваемого помещения. Договор заполняется в четырех экземплярах. Один экземпляр визируется начальником ЖЭСа.

В налоговую инспекцию по месту прописки граждане представляют:

— заявление о постановке на налоговый учет,

— заявление о присвоении учетного номера налогоплательщика,

— листок со сведениями о налогоплательщике,

— копию договора поднайма жилого помещения, заверенную начальником ЖЭСа.

На основании представленных документов налоговая инспекция рассчитывает подоходный налог в твердой сумме. После уплаты указанного налога в извещении делается отметка об оплате, которая заверяется налоговым органом.

В случае сдачи в аренду гражданами помещения юридическому лицу, подоходный налог удерживается у источника выплаты дохода по ставкам ст. 14 Закона РБ "О подоходном налоге с граждан". При этом юридические лица обязаны одновременно с поручением на перечисление средств гражданам за сдачу внаем помещения, а также одновременно с получением в учреждениях банков средств на выплату причитающихся гражданам сумм перечислять в бюджет суммы исчисленного налога. Субъекты хозяйствования ежеквартально, не позднее 15 числа месяца, следующего за отчетным кварталом, предоставляют налоговым органам по месту нахождения сведения о выплатах гражданам доходов.

## Інспектар ДАІ паступіў правільна

***Нядаўна мяне спыніў інспектар ДАІ і праверыў рухавік маёй машыны на колькасць утрымання шкодных рэчываў у яго выкідах. Па словах міліцыянера, пакАзчык перавышаў устаноўленую норму, таму ў мяне забралі правы, зрабілі запіс у талон папярэджанняў і прапанавалі зняць нумарны знак. Колькі я не спрабаваў, але не змог яго зняць. Тады інспектар ДАІ літаральна садраў знак з машыны і спагнаў штраф у суме 1 млн.руб.***

***Ці правільна паступіў міліцыянер?***

**Іван ХАРЫТОНЧЫК, Слонім**

У даным выпадку дзеянні супрацоўніка ДАІ адпавядаюць Палажэнню аб Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі МУС Рэспублікі Беларусь. Сярод іншых правоў, ДАІ прадастаўлена права "забараняць эксплуатацыю транспартных сродкаў, у тым ліку і са зняццем нумарных знакаў, калі іх канструкцыя ці тэхнічны стан не адпавядае патрабаванням дзеючых правілаў, нарматываў і стандартаў".

Згодна з арт.82 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, эксплуатацыя аўтатранспартных сродкаў і ўстановак, у якіх утрыманне забруджваючых рэчываў у выкідах, а таксама ўзровень шуму пры яго рабоце перавышаюць устаноўленыя нарматывы — прадугледжваецца папярэджанне ці штраф у памеры ад 0,5 да 3-ох мінімальных зарплат.

## Дарэмныя турботы

***У 1995 годзе я абмянала жыллё ў Ваўкавыску на кватэру ў Слоніме. Потым даведалася, што сын былых уладальнікаў кватэры асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі (пры абмене кватэры мне пра гэта не сказалі). Мае знаёмыя сцвярджаюць, што сын былых гаспадароў кватэры, пасля вяртання з месцаў зняволення, будзе мець права на маю кватэру.***

***Ці так гэта?***

**Аксана Бруцкая**

Вам не варта турбавацца, бо ў адпаведнасці з арт. 70 Жыллёвага Кодэксу РБ, сын былых уладальнікаў вашай кватэры пасля вызвалення з месцаў зняволення не будзе мець ніякіх правоў на ваша жыллё.

## Лучше оформить договор займа

***Мой сосед дал деньги взаймы на покупку машины (5000 долларов США). Есть расписка. Деньги не возвращают. Что делать?***

**Сергей И.**

Передача денег взаймы является договором гражданско-правового характера и попадает под действие Гражданского кодекса Республики Беларусь.

Ст. 390 Гражданского кодекса Республики Беларусь определяет, что является договором займа: "По договору займа одна сторона (займодавец) передает другой стороне (заемщику) в собственность (полное хозяйственное или оперативное управление) деньги или вещи, определенные родовыми признаками, а заемщик обязуется возвратить займодавцу такую же сумму денег или равное количество вещей такого же качества... Договор займа считается заключенным с момента передачи денег или вещей в долг".

Эта же статья обязывает заключать договор займа на сумму свыше пяти минимальных заработных плат в письменной форме.

На практике суды рассматривают расписки как письменную форму договора, а значит, ваш сосед вправе обратиться в суд с иском о взыскании долга.

## Трэба ўстанавіць бацькоўства

***Я была замужам і маю 10-гадовую дачку. Пасля скасавання шлюбу ў мяне нарадзіўся сын. На старэйшую дачку я атрымліваю аліменты, а сына былы муж не прызнаў і матэрыяльна дапамагаць адмаўляецца.***

***Ці можна нейкім чынам падцвердзіць бацькоўства і прымусіць былога мужа плаціць аліменты на дзіця?***

**Алена А., Слонімскі раён**

Дзеючым заканадаўствам прадугледжана судовае ўстанаўленне бацькоўства пры адсутнасці шлюбу паміж мужчынам і жанчынай.

Бацькоўства можа быць устаноўлена па заяве аднаго з бацькоў у судовым парадку. Суд прымае пад увагу сумеснае пражыванне і вядзенне агульнай гаспадаркі маці дзіцяці і адказчыкам да нараджэння дзіцяці ці сумеснае выхаванне альбо ўтрыманне імі дзіцяці. Могуць быць прыняты пад увагу абставіны, якія пацвярджаюць прызнанне адказчыкам бацькоўства.

Таму для вырашэння пытання аб спагнанні аліментаў трэба звярнуцца ў суд з заявай аб устанаўленні бацькоўства.

## Аформіце кватэру ва ўласнасць

***У 1991 годзе я цалкам выплаціў пай за кааператыўную кватэру, але яе не прыватызаваў. У кватэры прапісаны яшчэ дачка і сын. Я маю сталы ўзрост і часта хварэю. Хачу, каб пасля маёй смерці кватэра засталася дзецям. Але пры звароце да старшыні кааператыва я даведаўся, што непрыватызаваная кватэра знаходзіцца ў распараджэнні кааператыва.***

***Ці правільна гэта? Што я павінен рабіць?***

**Мікалай Фёдаравіч К., Слонім**

Старшыня кааператыва даў вам правільнае тлумачэнне. За спадкаемцамі члена кааператыва, якія карысталіся пры яго жыцці жылым памяшканнем, захоўваецца права карыстання гэтым памяшканнем пры ўмове ўступлення ў кааператыў. Спадкаемцам, якія не карысталіся памяшканнем пры жыцці гаспадара, кааператыў выплочвае паевы ўзнос (арт. 58 Прыкладнага статуту ЖБК).

Для таго, каб пазней у вашых дзяцей не ўзніклі складанасці, вам патрэбна ва ўстаноўленым парадку аформіць кватэру ва ўласнасць. Пасля гэтага вы зможаце пакінуць сваю кватэру ў спадчыну дзецям і ўнукам.

## Што трэба, каб набыць газавы пісталет?

***У мэтах самаабароны хачу набыць газавы пісталет, але не ведаю, што для гэтага неабходна зрабіць?***

**Павел Пятрашка, Слонімскі раён**

Падставай для выдачы дазволу на набыццё газавага пісталета з'яўляецца заява на імя начальніка міліцыі з абавязковым тлумачэннем матываў яго пакупкі. Да заявы павінны быць прыкладзены наступныя дакументы:

— картка-заява ўстаноўленай формы;

— дзве фотакарткі (3х4);

— медыцынская даведка аб стане здароўя, завераная кіраўніком медыцынскай установы на аснове заключэння псіхіятра, нарколага, акуліста;

— даведка аб здачы залі-каў па веданню правілаў карыстання газавым пісталетам.

Заява разглядаецца ў месячны тэрмін. Пры станоўчым рашэнні вам будзе выдадзены дазвол на пакупку газавай зброі. Потым вы павінны будзеце на працягу 10 дзён зарэгістрыраваць пісталет у міліцыі. Там атрымаеце пасведчанне на захоўванне, нашэнне і выкарыстанне пісталета ў мэтах самаабароны тэрмінам на тры гады. Па пасведчанню вы будзеце купляць патроны да вашай зброі.

**Старонку падрыхтаваў Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**

ФЕЛЬЕТОН

# РЭФЕРЭНДУМ

У адным ляску, які славіўся талерантнымі Курамі, царавала Ліса. Яна была і прыгожая, і гаваркая, але да яе, як да многіх, прыйшла бяда. Настаў такі дзень, што нават талерантныя Куры перасталі нясціся. Раней яйкі Ліса суседзям прадавала і новыя футры сабе купляла: і рыжыя, і чорна-бурыя, і з пазалотай. А цяпер што рабіць? У адным і тым жа футры цэлы год хадзіць? Неяк нязвыкла.

Выклікала Ліса Ваўка – шэфа Бяспекі над Курамі. Ліса Ваўку, якога прызначыла шэфам Бяспекі, падарыла гранатамёт, каб усе бачылі, што ў яе не абыякі шэф, а з гранатамётам.

Сядзіць Ліса за шырокім паліраваным сталом, на якім тэлефонаў процьма: і вялікіх, і маленькіх, і з правадамі, і без правадоў. Праўда, тэлефоны каторы дзень не звоняць, маўчаць. А ўсё з-за таго, што пасланцы з іншых ляскоў ад Лісы паўцякалі, калі праведалі, што Куры ў яе перасталі нясціся. Ды пра гэта яшчэ на ўвесь лясны абшар раструбілі. Вось і перасталі званіць да Лісы і з блізкага, і з далёкага залесся. Воўк стаіць перад Лісой, у струнку выцягнуўся, баіцца сапнуць, бо ведае: думу думае Ліса.

Нарэшце Ліса плечукамі сцепанула і на Ваўка спадылба зірнула.

– Значыць, Куры перасталі нясціся? Значыць, яны ўзбунтаваліся, забаставалі? Ты куды глядзеў, чаму дапусціў? Гранатамёт надакучыла насіць?

Воўк мацней прыціснуў да грудзей зброю. З гранатамётам, які на ўсіх страх наганяе, не хочацца яму разлучацца.

– Ваша светласць, таварыш Ліса, Куры ад голаду перасталі нясціся.

Ліса і сама пра гэта ўжо ведала, але ёй вельмі хацелася пачуць пра забастоўку. Калі б Куры захваляваліся, забаставалі, то яна ўявіла б у ляску надзвычайнае становішча і Тхароў на іх напусціла б. Тхарам толькі каманду дай.

Зусім сумна і крыўдна стала Лісе. Яна ледзь не заплакала.

– А чаму нашы Куры на сметніках не грабуцца, зярняткі не шукаюць?

– Зярняткі на сметніках яны даўно павыграбалі, – уздыхнуў Воўк.

У Лісы вочы заблішчалі, як у самай галоднай Курыцы.

– Нам патрэбен рэферэндум!

– Па рэферэндумах Заяц спецыяліст, – зніякавеў Воўк.

– Зайца сюды! – тупнула лапай Ліса.

Прыбег Заяц, спецыяліст па рэферэндумах.

– П'еш? – воклічам сустрэла яго Ліса.

Заяц стаіць, галаву апусціў.

– У рот не бяру.

– Глянь, якія вочы ў цябе! Зусім акасеў, – скрывілася Ліса.

– Я касы ад нараджэння, – прызнаўся Заяц. – Я...

– Куры не бунтуюць? – перапыніла яго Ліса. – Мо ўжо расквахталіся?

Заяц, як і Воўк, выцягнуўся стрункаю.

– Не квохчуць, ваша светласць, таварыш Ліса. Ходзяць сонныя.

– Мы правядзём рэферэндум аб аб'яднанні Курэй нашага ляска і суседняй пушчы ў адну лесдзяржаву, – выказала Ліса сваю заветную думку.

Заяц быў сапраўдны служака. Ён адразу скеміў, што да чаго, але разумеў, чым гэта можа скончыцца.

– Ваша светласць, таварыш Ліса, на гэты рэферэндум нашы Куры не пойдуць. Рэферэндумаў яны наеліся, зерня хочуць.

– Паабяцаем, што адразу пасля рэферэндуму зерня з суседняй пушчы ім падвязуць, – ухмыльнулася Ліса.

Заяц ведаў, што з царыцай не трэба спрачацца, але яго быццам сам нячысцік за язык цягнуў.

– У суседняй пушчы Куры таксама галодныя, ледзь дыхаюць.

– У суседняй пушчы гуманітарную дапамогу чакаюць, – сказала Ліса і паглядзела на Ваўка. – Што скажа Галоўны Шэф?

Воўк кашлянуў і бадзёра адказаў:

– Па маіх звестках, яны яе вось-вось атрымаюць.

Зайца праняло халодным потам.

– Атрымаюць – і адразу ж з'ядуць, як не раз, і не два з'ядалі. Нашым Курам яе не хопіць.

"Ну й халера з імі! Абы тым хапіла. Наядуцца – і яек нанясуць. А я, стаўшы царыцай аб'яднаных дзвюх дзяржаў, распараджуся, куды і каму іх адправіць", – падумала Ліса, але не сказала аб гэтым недарэку Зайцу. А той, ці то ад страху, ці то ад упартасці, бубніць:

– Не пойдуць. Не прымусім.

Ліса зноў паглядзела на Ваўка.

– Прымусім! Тхары прывядуць альбо мёртвых, альбо жывых, – прыўзняўшы гранатамёт, прамовіў Воўк.

Заяц-служака вырашыў не здавацца, да канца стаяць.

– Певень з суседняй пушчы не захоча з намі аб'ядноўвацца.

Ліса пастукала кіпцюркамі па стале і зірнула на Ваўка.

– Гэты Певеньужо стары і хворы. Памяняем яго на памяркоўнага, калі раптам заўпарціцца. Нашы Тхары там ужо працуюць, – адказаў Воўк.

– Мне афармляць дакументы на правядзенне рэферэндуму? – мусіў здацца Заяц.

– Канешне, афармляй, – ласкава ўсміхнулася Ліса.

Заяц развітаўся і, спатыкаючыся, выйшаў з кабінета. Ліса ўстала з-за стала і паківала галавою.

– Заяц, як мне здаецца, перətaмíўся на рэферэндумах. На сметнік яму пара.

– Адправім. Дам каманду Тхарам, – бадзёра запэўніў Воўк.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**













# Минута смеха добавляет год жизни. УСЛОВНО.

**Саперное**

Она сидела
с кислой миной,
Ей было
наплевать на все.
Но он был
опытный мужчина
И разминировал ее.

**О жизни**

На лихой тачанке
Я не колесил,
Не стирал портянки,
"Маузер" не носил,
Не "рубал" перловки
Я из котелка,
Не держал винтовки,
Не был сын полка.
Не стоял в пикете,
Не пилил, не брил.
Не летал в ракете,
Речь не говорил.
Не ходил на лыжах,
Не впадал в экстаз,
Не бывал в Париже,
Не писал указ.
Не держал штурвала,
Не кидал навоз.
Даже мужем Аллы
Быть не довелось.
Не любил ни разу,
Не курил, не пил...
Жизнь прошла, зараза!
Да и на фиг жил?










# ЯК ЯЎРЭІ АД НАГУЕЎЦАЎ БАРАНІЛІСЯ

Да вайны на Слонімскім рынку было мноства гандлёвых лавак, дзе яўрэі гандлявалі рознымі таварамі: ад іголак да хамутоў.

Некаторыя жыхары з вёскі Нагуевічы навучыліся абкрадаць яўрэяў. А рабілі яны гэта наступным чынам.

Звычайна ў лаўку заходзілі тры альбо чатыры нагуеўцы, адзін з каторых задурваў галаву гаспадару лаўкі:

– Дастань, браце, вунь той брус з верхняй паліцы.

Яўрэй ставіў драбінку і лез даставаць той брус з самай верхняй паліцы. У гэты час нагуеўцы набівалі кішэні розным дробным таварам.

Аднак так цягнулася нядоўга. Гандляры хутка даведаліся нейкім чынам, хто іх дурыць і абкрадае. Таму, як толькі на рынку з'яўляліся хлопцы з Нагуевіч, яўрэй адразу даваў сваіму работніку некалькі злотых і казаў:

– На, вынесі і аддай вунь тым мужыкам, каб толькі яны не заходзілі ў лаўку.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

*(посвящается В.Маяковскому)*

Власть Советам!
Скот крестьянам!
Все за это
Встанем рьяно!
Хлеб — Поволжью!
Соль — Кузбассу!
Выпить можно
Только квасу!
"Да" — рабфаку!
"Нет" — рабсиле!
Перед фактом
Враг бессилен!
Шиш — буржуям!
Хрен с навозом!
Нэпман — жулик!
Друг — угрозыск!
Брат — в кожанке!
Кум — в толстовке!
Лом — на танки
и винтовки!
Власть — Советам!
Землю — людям!
Ибо все там
Скоро будем!

# Иерархология или наука заседать

**Постулат Паркинса**

Чем ниже сидишь, тем больнее бьют.

**Правило Роджерса**

Проект примут только когда никого из членов комиссии нельзя будет обвинить в случае провала, но зато при успехе все смогут претендовать на поощрение.

**Закон обратного действия Стюарта**

Легче получить прощение, чем разрешение.

**Теорема неизбежности Бахмана**

Чем больше затраты на выполнение плана, тем меньше шансов отказаться от него - даже если он окажется несостоятельным.

*Следствие*

Чем выше престиж людей, стоящих за планом, тем меньше шансов его отмены.

**Закон Конвэя**

В любой организации всегда найдется человек, знающий что на самом деле происходит. Его-то и надо уволить.

**Теорема о подборе кадров Лофтуса**

1. Приглашенные издалека специалисты всегда кажутся лучше доморощенных.

2. Прием на работу - это победа надежды над опытом.

**Пятый закон управления Лофтуса**

Руководи по книге, даже если не знаешь ни имени автора, ни названия.

**Первое правило неполноценности начальства**

Не давайте понять своему начальнику, что вы - умнее.

**Закон Уистлера**

Никогда не знают, кто прав, но всегда известно, кто в ответе.

**Законы исходных данных Спенсера**

1. Каждый может принимать решение, распологая достаточной информацией.

2. Хороший руководитель принимает решение и при ее нехватке.

3. Идеальный - действует в абсолютном неведении.

**Правило Готлиба**

Если начальник пытается произвести впечатление на подчиненных знанием деталей, он теряет из виду конечную цель.

**Закон Кона**

У бюрократов поток бумаг тем обильнее, чем больше времени тратится на отчеты о все меньшем объеме работы. Устойчивое состояние достигается, когда все свое время вы тратите на отчет о ничегонеделание.

**Закон Матильды об образовании подкомитетов**

Стоит выйти из комнаты, как тебя тут же выберут.

**Закон управления Веллингтона**

Наверху собираются сливки. И пена тоже.

**Закон Кушнера**

Шансы на выполнение работы обратно пропорциональны числу лиц, по долгу службы обязанных это сделать.

**Выражения с крылышками**

☛ Помнил, что любил без памяти, а вот кого — забыл.

☛ Молчание — золото, но почему-то одним — молчание, другим — золото.

☛ Если ты здоров — это хорошо, если я — еще лучше.

☛ В противовес уже официально зарегистрированной партии дураков в республике создается партия не дураков... выпить.

☛ Дайте мне торговую точку, и я "толкну" весь мир.

**Подготовил КИРИЛЛ Ф.**

# ГОРОСКОП
## с 6 по 12 МАЯ


**ОВЕН** Будьте внимательны в отношениях с официальными лицами, особенно по вопросам работы. Придется искать компромиссы, будьте сдержаннее при отстаивании своих профессиональных интересов. У некоторых Овнов есть вероятность получить ценное предложение или совет.


**ТЕЛЕЦ** Вы будете в поисках цели своей деятельности. Необходима повышенная внимательность в финансовых отношениях, берегите деловые и информационные связи. Постарайтесь быть внимательнее, при обмене информацией возможны утечки.


**БЛИЗНЕЦЫ** Придется поискать новые идеи для увеличения своего дохода. Постарайтесь избегать авантюр. Постарайтесь вести себя сдержаннее с агрессивно настроенными людьми. Вам придется изменить свое отношение к некоторым из партнеров.


**РАК** Вам необходимо будет принимать довольно сложные решения, связанные с материальными вопросами и отношениями с партнерами. Может временно пропасть интерес к работе, проблемы трудоустройства необходимо решать осторожно, чтобы не вызвать конфликтов с официальными лицами.


**ЛЕВ** Будьте как можно внимательнее при решении вопросов, связанных с выполнением заказов, и при заключении договоров. Постарайтесь не навязывать своего мнения, так как в результате неудачи Вы ощутите неуверенность в своих силах и можете потерять нужные связи и информацию.


**ДЕВА** Чрезмерная самоуверенность может привести к сложностям в получении заказов на работу. Постарайтесь быть как можно внимательнее - возможны ошибки в финансовых отношениях. В любом случае лучше всего поискать компромисс.


**ВЕСЫ** Ожидаются сложные ситуации в семейных отношениях, будьте внимательнее при операциях с недвижимостью. Необходима повышенная внимательность в обращении с транспортом и средствами связи. Возможны конфликты с окружающими Вас людьми, поэтому сдерживайте эмоции.


**СКОРПИОН** Вероятны проблемы с транспортом и средствами связи. Нужно будет приложить больше усилия, чтобы найти взаимопонимания с близкими людьми. Настойчивое желание заработать дополнительные средства будет чрезвычайно сложно реализовать. Берегите здоровье.


**СТРЕЛЕЦ** Необходима повышенная внимательность при покупках и иных операциях в материальной сфере. Особенно постарайтесь быть внимательнее в процессе общения и в коммерческих операциях. Несколько завышенное мнение о своих способностях может привести к конфликтам с окружающими.


**КОЗЕРОГ** Ваши усилия по поиску дополнительных материальных средств, скорее всего, окажутся безуспешными и вызовут разочарование. Постарайтесь избегать чрезмерной принципиальности в отношениях с официальными лицами и посредниками, иначе Вам очень сложно будет найти взаимопонимание.


**ВОДОЛЕЙ** Вы можете запутаться в отношениях, что поставит под сомнение Ваши наилучшие ожидания. Постарайтесь на этой неделе действовать самостоятельно, не стоит рассчитывать на посредников. Вероятны потери информационных источников, будьте внимательнее в дружеских связях и в поездках.


**РЫБЫ** Возможны ситуации, ставящие под сомнение надежность друзей. Постарайтесь из-за этого не концентрироваться на ощущении обмана, чтобы не спровоцировать конфликт. Необходима повышенная внимательность в обращении с материальными средствами, особенно при коммерческих операциях и в отношениях с официальными лицами.

# ПРЫСВОЕНА ІМЯ КРАЯЗНАЎЦА

**Гродзенскі аблвыканкам прысвоіў народнаму музею слонімскай СШ №4 імя Аляксандра Жукоўскага, яго заснавальніка і шматгадовага кіраўніка.**

Аляксандр Сяменавіч Жукоўскі (1920-1995) адзін з самых вядомых слонімскіх краязнаўцаў. Гісторык па адукацыі, ён доўгі час працаваў у вясковых школах настаўнікам, дырэктарам, арганізаваў музей. З 60-х гадоў Аляксандр Жукоўскі працаваў у СШ №4, стварыў музей. У 1989 годзе пад музей выдзелілі асобны будынак. Аляксандр Сямёнавіч сабраў безліч каштоўных экспанатаў, у асноўным, прысвечаных апошняй вайне. Ён падтрымліваў сувязі з ветэранамі, якія вызвалялі Слонім ад фашысцкіх захопнікаў, арганізоўваў іх сустрэчы. Рэгулярна з'яўляліся гістарычныя і публіцыстычныя артыкулы Аляксандра Жукоўскага ў мясцовым і рэспубліканскім друку. Ён выдаў некалькі кніг. А галоўнае — Жукоўскі праводзіў вялікую асветніцкую працу сярод моладзі, далучаў школьнікаў да краязнаўства.



Шмат узнагарод атрымаў слонімскі энтузіяст за сваю ахвярную працу, стаў заслужаным работнікам культуры Беларусі. Але найбольшая ўзнагарода для яго — гэта памяць людская.

Цяпер імя Аляксандра Сямёнавіча Жукоўскага будзе ўвекавечана ў назве музея.

**Сяргей ЁРШ**

# СПЯВАЛІ ЛЕПШ ЗА ЎСІХ

**У польскім горадзе Лодзі адбыўся IV міжнародны фестываль рэлігійнай песні. Журы, пад старшынствам дырыжора польскай акадэміі музыкі Яна Коганта, аднагалосна прысудзіла першае месца хору дзяўчынак Слонімскага касцёла св. Марыі "Спакой і дабрыня".**



У конкурсе прымалі ўдзел 44 калектывы з Бельгіі, Беларусі, Літвы, Польшы і Украіны. Наш хор, кіраўніком якога з'яўляецца Людміла Богдан, выканаў шэсць рэлігійных твораў, але найбольш уразіла журы і гледачоў песня "Санкта Марыя", якую напісаў былы ксёндз касцёла Томаш Юнчык. Калектыў узнагароджаны дыпломам I ступені і каштоўнымі прызамі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

На здымку: хор "Спакой і дабрыня"

## Перамагла на абласной алімпіядзе

**Вучаніца 9 класа Слонімскай СШ №6 Тоня Сныткова стала пераможцай абласной алімпіяды па тэорыі музыкі. Сярод 16 прадстаўнікоў музычных школ Гродзеншчыны яна паказала самыя лепшыя веды.**

Тоня Сныткова вучыцца на харавым аддзяленні слонімскай дзіцячай музычнай школы, а рыхтавала яе да алімпіяды выкладчыца Наталля Кукліцкая.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЭКОЛОГИЯ**

## В полете "Беркут"

**Пятый год на территории Беларуси проводится конкурс "Беркут" с целью выявления местообитаний и охраны редких видов птиц.**

Необходимость этого конкурса объясняется тем, что сегодня некоторые виды птиц находятся на грани исчезновения. В прошедшие годы энтузиасты выявили и передали под охрану областным комитетам природных ресурсов ранее несколько десятков ранее неизвестных ученым гнездовий редких птиц, в том числе и беркута, змееяда, скопы, но все они обнаружены на севере республики, в Витебской области. В то время как на остальной территории участки обитания птиц, занесенных в Красную книгу Беларуси, практически неизвестны. Сейчас массивы лесов, где они встречаются, — осушаются и вырубаются, в результате, изменяются и местообитания редких видов птиц.



Мы просим граждан, кто знает местонахождение гнезд или колоний редких птиц, не взятых под охрану в инспекции природных ресурсов и охраны окружающей среды, сообщить до 1 июля 1999 года (со схемой расположения гнезда или фотографией дерева с гнездом и его точными координатами) в Оргкамитет с пометкой "На конкурс "Беркут-99".

Наш адрес: ЗБТОП, ул. Суворова, 23-7, Гродно, 230001.

За каждое сообщенное гнездовье будут вручены призы в размере от 10 до 50 долларов. Премии будут выплачиваться в белорусских рублях по курсу Национального банка РБ.

**Светлана АДАМОВИЧ**

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Сцяцура Маргарыта
Цімафейчык Аляксандра
Гайшун Дзмітрый
Тачоная Паліна
Собалеў Валерый
Штукель Андрэй
Дабрыян Кацярына
Александровіч Шандор
Рытчэр Глеб
Лапко Таццяна
Ражко Томаш

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны шлюбы:**

Бандарэйка Вольга і Кузняцоў Мікалай
Сасноўская Наталля і Заляхоўскі Яўген
Кулакоўская Вольга і Лапашоў Андрэй
Лазко Вольга і Расько Леанід
Арлоўская Клаўдзія і Александровіч Стэфан
Гіль Дзіяна і Цімафейчык Аляксандр

# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Пракопчык** Мікалай Дзям'янавіч | 1935 г.н. |
| **Маркачоў** Мікалай Фёдаравіч | 1928 г.н. |
| **Лоташ** Фелікс Іванавіч | 1944 г.н. |
| **Адамовіч** Барыс Лявонцьевіч | 1949 г.н. |
| **Давыдзюк** Станіслава Антонаўна | 1932г.н. |
| **Крупнік** Валянцін Канстанцінавіч | 1940 г.н. |
| **Кавалькоў** Віктар Давыдавіч | 1937 г.н. |
| **Янушэвіч** Пётр Паўлавіч | 1916 г.н. |
| **Бадзей** Мікалай Віктаравіч | 1931 г.н. |
| **Баброві́ч** Алег Мар'янавіч | 1967 г.н. |
| **Мурыч** Канстанцін Леанідавіч | 1947 г.н. |
| **Пінчук** Валерый Паўлавіч | 1963 г.н. |

**КРОССВОРД** *от Владимира ВАШУТЫ*

1. Торжественная церковная церемония возложения короны на монарха, вступающего на престол. 2. Совокупность географических названий какой-нибудь территории. 3. Великий русский ученый и поэт. 4. Собирание для коллекции почтовых и гербовых марок. 5. Совокупность наук о языке и литературном творчестве того или иного народа. 6. Роман А.Караваевой. 7. Кинорежиссер, народный артист СССР. 8. Система мероприятий, направленных на охрану и поддержание общественной чистоты и здоровья. 9. Движение руки, головы, выражающее приказание (устар.). 10. Русский композитор, пианист и дирижер. 11. Мореплавание, судоходство. 12. Группа выборных или назначенных представителей для участия в переговорах, съездах. 13. Аппарат для выделения сливок из цельного молока. 14. Крупная морская водоросль. 15. Чрезмерное восхваление чего-либо. 16. Наука, изучающая поверхность Земли. 17. Изысканное, тонкое кушанье. 18. Несоответствие слов и поступков человека его истинным убеждениям, намерениям. 19. Автобиография (сравни). 20. Летчик-космонавт СССР. 21. Союз, объединение обществ и организаций. 22. Установленный порядок действий при торжественных обрядах. 23. Город в Ивано-Франковской области. 24. Возмещение за нанесённые войной убытки, выплачиваемое побежденным государством. 25. Первенство, превосходство в силе влияния, руководящая роль. 26. Искусство приготовления пищи. 27. Русский писатель и баснописец XVIII в. 28. Удаленная от центра местность. 29. Напевная речь в вокально-музыкальном произведении. 30. Российский футбольный клуб. 31. Выражение неодобрения, осуждения. 32. Дирижер, народный артист СССР. 33. Люди близкого возраста, живущие в одно время. 34. Наука о грибах. 35. Наука о наиболее общих законах развития природы, общества и мышления. 36. Столярное ручное сверло.



**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№18)**

**Верхняя четверть** 1. Барон. 2. Цейтнот. 3. Бар. 4. Ода. 5. Эстрада. 6. Ангар. 7. Газета. 8. Десант. 9. Почта. 10. Аркан. 11. Рокот. 12. Анчар. 13. Колоннада. 14. Колас.
**Левая четверть** 1. Патент. 2. Антре. 3. Варна. 4. Ассамблея. 5. Терраса. 6. Варан. 7. Юта. 8. Шакал. 9. Акт. 10. Калибр. 11. Аббат. 12. "Ермак". 13. Кларнет. 14. Абзац.
**Нижняя четверть** 1. Акула. 2. Мокша. 3. Склон. 4. Восторг. 5. Диалект. 6. Послушник. 7. Галун. 8. Панда. 9. Таити. 10. Алтай. 11. Око. 12. Бал. 13. Кубрик. 14. Аркада.
**Правая четверть** 1. Балет. 2. Кварта. 3. Нарва. 4. Благовест. 5. Алгебра. 6. Галоп. 7. Гаага. 8. Пар. 9. Мойва. 10. Аул. 11. Унисон. 12. Токио. 13. История. 14. Лимон.

ФУТБОЛ

# А МАГЛІ Б І ВЫЙГРАЦЬ

**"Дынама-Юні" (Мінск) — "Камунальнік" (Слонім) — 2:1**

**Мінск. Стадыён "Камвольшчык". 2 траўня. 300 гледачоў.**
**"Камунальнік": Кіркіж, Купрыкаў, В.Дзегіль, А.Дзегіль (Уладзімірскі, 71), Селіванаў, Пагоцкі, Дым, Савіцкі (Дубінін, 65), Баль (к) (Ягаўцаў, 79), Савань, Татарашвілі.**
**Галы: Татарашвілі (71); Толмач (50), Вострыкаў (77).**

У трэцім туры нашы футбалісты прайгралі, хаця магчымасцяў для перамогі было шмат. З самага пачатку матча слонімцы перахапілі ініцыятыву і амаль на працягу ўсяго першага перыяду кантралявалі сітуацыю на полі. Шмат магчымасцяў адкрыць лік мелі Татарашвілі, Савіцкі, В.Дзегіль. Аднак галкіпер мінчан удала займаў пазіцыю ў варотах і не даваў мячу трапіць у сетку. Больш вострая гульня атрымалася ў другой палове матча. На 50-ай хвіліне абаронца Купрыкаў зрабіў памылку і пасля перадачы мінскага легіянера з Бразіліі Рубенса-Суарэса Толмач забівае першы гол у нашы вароты. Слонімцы контратакуюць. Да варот саперніка ўдала праходзіць наш дэбютант Дубінін, падае мяч Татарашвілі, які накіроўвае яго ў сетку варот. Нічыя. Здаецца, такі лік мог задаволіць абедзьве каманды, але да канца гульні застаецца яшчэ 20 мінут. Футбалісты, ажыццяўляючы хатнія камбінацыі, імкнуцца прарвацца да варот сапернікаў. І вось на 77 мінуце Вострыкаў апынуўся на ўдалай пазіцыі забіў гол у пустыя вароты "Камунальніка". Нашы спрабавалі адыграцца, але шанцы так і не былі рэалізаваны.

Наступная сустрэча "Камунальніка" адбудзецца у Оршы 8 траўня.

**Б.П.**

# НАВІЧОК ПЕРШАЙ ЛІГІ

**Мастоўская каманда "Нёман" сёлета атрымала права выступаць у першай лізе.**

Цяперашні склад каманды значна адрозніваецца ад мінулагодняга. У сакавіку гэтага года "Нёман" узначаліў новы галоўны трэнер — Віктар Бублік. Ён родам з Украіны. З верасня 1998 г. працаваў другім трэнерам каманды. В. Бублік лічыць, што ў мінулым сезоне склад "Нёмана" быў сярэдняга ўзроўню (частка ігракоў нават не адпавядала патрабаванням другой лігі), дысцыпліна была на нулявой адзнацы, неаднаразова парушаўся спартыўны рэжым. А тое, што каманда заваявала права выступаць у першай лізе — збег абставін...

Новы галоўны трэнер запрасіў з Украіны дзесятак тамтэйшых футбалістаў. Мясцовыя выхаванцы сталі непатрэбныя, а гэта выклікае нараканні з боку балельшчыкаў... Перадсезонную падрыхтоўку каманда прайшла, у асноўным, дома. Прымала ўдзел у некаторых турнірах. У Слоніме на абласных спаборніцтвах па міні-футболу і на турніры ў Шчучыне была другой. Чацвёртае месца мастаўчане заваявалі на Кубку абласной федэрацыі. Існуе "Нёман" на сродкі АТ "Мастоўдрэў" і мастоўскага райвыканкама.

Мастоўскі футбол мае багатую гісторыю. Калісьці каманда існавала на базе мясцовага дрэваапрацоўчага прадпрыемства. Доўгі час яна выступала за першынства вобласці. У 1971 годзе, апярэдзіўшы ў сваёй падгрупе каманды Ліды, Слоніма, Навагрудка, Гродна, мастаўчане заваявалі правы змагацца на рэспубліканскім чэмпіянаце. Там "Нёман" пратрымаўся два сезоны, а пасля зноў іграў за першынства вобласці.

Варта адзначыць і таварыскую сустрэчу, што адбылася ў 1984 годзе ў Мастах паміж ветэранамі мінскага "Дынама" і мясцовымі футбалістамі. Тады госці перамаглі з лікам 3:2. Праз год Масты наведала зборная ветэранаў Савецкага Саюза. І на гэты раз перамаглі госці, але з лікам 4:1...

16 траўня адбудзецца сустрэча мастоўскага "Нёмана" у Слоніме з "Камунальнікам". Будзем спадзявацца, што футбалісты пакажуць прыгожы і выніковы футбол.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА
пасля 3-га тура

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Пінск-900 | 3 | 2 | 1 | 0 | 5:1 | 7 |
| 2. Камунальнік (Сл.) | 3 | 2 | 0 | 1 | 6:3 | 6 |
| 3. Граніт | 3 | 2 | 0 | 1 | 5:3 | 6 |
| 4. Рагачоў | 3 | 1 | 2 | 0 | 2:0 | 5 |
| 5. Дынама-Юні | 3 | 1 | 2 | 0 | 5:4 | 5 |
| 6. Ведрыч-97 | 3 | 1 | 2 | 0 | 3:2 | 5 |
| 7. ЗЛіН | 3 | 1 | 1 | 1 | 5:3 | 4 |
| 8. Вейна-Днепр | 3 | 1 | 1 | 1 | 3:3 | 4 |
| 9. Керамік-Бяроза | 3 | 1 | 1 | 1 | 3:4 | 4 |
| 10. Палессе | 3 | 1 | 1 | 1 | 2:3 | 4 |
| 11. Тарпеда | 3 | 0 | 2 | 1 | 4:6 | 2 |
| 12. Орша | 3 | 0 | 2 | 1 | 3:5 | 2 |
| 13. Зорка ВА-БГУ | 3 | 0 | 2 | 1 | 2:4 | 2 |
| 14. Камунальнік (Св.) | 3 | 0 | 2 | 1 | 2:4 | 2 |
| 15. Нёман | 3 | 0 | 2 | 1 | 2:4 | 2 |
| 16. Віцьбіч-Дынама-Энерга | 3 | 0 | 1 | 2 | 3:6 | 1 |

сезон-99 • 1-я ліга • сезон-99 • 1-я ліга

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# КРУГІ НА ВАДЗЕ

У Жорнаўскай бальніцы Міхася Скрыпеня лячылі доўга і бязладна. Спачатку яго камячылі тэрапеўты, але так нічога і не знайшлі. Падкінулі да неўрапатолага. Боль не прайшоў ні за тыдзень, ні за два. Ды і ад чаго, уласна кажучы, ён мог прайсці? Стараваты тоўсты доктар быў абыякавы да ўсяго на свеце, акрамя спіртнога. Кожную раніцу ён заходзіў у палату, сеяў позіркам мутнаватых вачэй па ложках і пачынаў абход. Міхась ляжаў ля дзвярэй, і таму доктар пачынаў з яго.

— Ну? — ні то пытаў, ні то падганяў лекар.

І ад таго, паспеў ён пахмяліцца ці не, залежаў настрой. Пахмелены быў больш лагодны, а нашча — злы і пануры.

У тую пахмурную восеньскую раніцу зайшоў у палату "пасля ўчарашняга", і таму ўсім сваім абліччам нагадваў лістападаўскі туман.

— Ну? — падышоўшы да Міхасёвага ложка, задаў сваё традыцыйнае пытанне.

— Гну! Два тыдні нукаеце, а мне як балела, так і баліць. Нават яшчэ горш стала, — не стрываў Міхась. — Не ўмееце лячыць, то адпраўляйце ў абласную бальніцу.

Доктар прамаўчаў. Ён, як рабіў гэта заўсёды, пастукаў малаточкам па каленях, памераў ціск і пайшоў да другога хворага.

Не паспеў закончыцца абход, як прыехала жонка.

— Я табе курацінкі зварыла, памідораў свежых у сястры ўзяла, — пачала расказваць, але Міхась абарваў яе:

— Не трэба мне нічога! Ты б спачатку спытала, ці патрэбна мне гэта яда, ці палезе яна ў горла! Баліць стала яшчэ больш, а лячэння амаль ніякага. Дзве таблеткі раніцай, па адной днём і ўвечары — вось і ўсё лячэнне.

— Міхась, то хіба я вінаватая? — жаласліва прамовіла жонка. — Цэлымі днямі, як праклятая, у рабоце: то на ферме, то дома гаспадарку ўпраўляю. А трое дзяцей на руках — хіба лёгка? — выцерла слязінкі з яшчэ не старых абветраных шчок. — Паслухай! — раптам ажывілася яна. — Можа трэба што прывезці гэтаму доктару? Цяпер жа некаторыя даюць...

— Яшчэ чаго! — узвіўся Міхась. — Я ў калгаснай майстэрні і палову таго не зараблю, што ён тут. Ды яшчэ заплаціць тое заробленае праз тры месяцы. Зіма ідзе, а ў мяне ботаў цёплых няма. Калі выкарабкаюся з хваробы, то і на вуліцу не будзе ў чым выйсці.

— А не дасі, дык і залечыць! — са злосцю сказала жонка. — Куды я тады з дзецьмі?

— Не залечыць. Не паспее. Я ў абласную бальніцу ўцяку.

— Уцячэш, а як жа. Хто табе накіраванне дасць? Там без накіравання не прымуць.

— Дадуць! — упэўнена сказаў Міхась, і ў вачах яго бліснуў нядобры агонь.

Пасля абеду, калі пачался ціхі час, ён пайшоў у ардынатарскую да доктара. Пагутарыць. Той сядзеў за сталом і нешта пісаў. Відаць, паспеў да гэтага часу пахмяліцца, бо твар пачырванеў, быў не такім шэрым. Ды і "водар" у ардынатарскай яскрава сведчыў пра гэта.

— Што скажаш? — не вельмі зычліва зірнуў ён на Міхася і зноў апусціў нос да папераў.

— А тое і скажу: дай мне накіраванне ў абласную бальніцу, не гнаі тут зажыва.

— Разумнейшым за ўсіх хочаш быць? — доктар стрымліваў злосць.

— І не дурнейшы! — Міхась ужо ледзь валодаў сабой.

— Я дам табе накіраванне ў морг! — раптам выпаліў доктар.

— Паглядзім! — пагрозліва прамовіў Міхась і выйшаў.

Вечарам ён пазваніў сваёй былой аднакласніцы, якая жыла ў горадзе і была замужам за начальнікам. Папрасіў пасадзейнічаць.

Праз некалькі дзён атрымаў накіраванне ў абласную бальніцу.

Лёс зміласціваўся над Міхасём. Ён выжыў. У абласной бальніцы яму зрабілі тры аперацыі.

Мінула зіма. У пачатку вясны выпісалі дамоў. Далі трэцюю групу інваліднасці. Параілі нічога фізічна не рабіць. Ён вельмі пакутаваў ад гэтага. Як настала лета, хапаўся то за касу, то за граблі, але налёталі жонка і дзеці, адбіралі. Яны былі шчаслівыя, што выжыў і бераглі, як маглі.

Горыч ад сваёй бездапаможнасці гнала з дому. Прызвычаіўся лавіць рыбу. Некалі гэты занятак лічыў пустой тратай часу, дзіцячай забавай, а цяпер браў вуды і гадзінамі праседжваў на беразе. У яго ўжо з'явіліся такія-сякія навыкі, і часта прыносіў у цэлафанавым пакеце рыбы то на юшку, то пасмажыць.

У той летні вечар Міхась таксама сядзеў на беразе. Глядзеў, як на вадзе залатой лускай пераліваліся сонечныя промні, радаваўся, што бачыць гэту прыгажосць. І так расчуліўся, што слёзы пацяклі па яшчэ ўпалых шчоках.

Думкі яго перапыніў гул матора. Непадалёку спыніўся сіні "Форд". З яго выйшаў тоўсты гаспадар. Няўпэўненымі рухамі добра выпіўшага чалавека пачаў здымаць з сябе адзенне. Міхась пазнаў яго адразу: доктар. І доктар Міхася, вядома, заўважыў. Ён асалавела зірнуў наўкола і проста з берага камянем баўтануўся ў ваду. Але чамусьці не паплыў, а пачаў нібы дражніцца з Міхасём: то з'яўляўся, то хаваўся пад вадой.

— Тану! — раптам спалохана закрычаў ён. — Памажы!

— А ты мне памог?

— Усё роўна памажы! Ты не маеш права! — з апошніх сіл прасіў доктар.

Міхась устаў, зматаў вудачкі і пайшоў ад ракі. А калі азірнуўся, то ўбачыў толькі кругі на вадзе, якія згладжваліся, паволі зніклі ля самага берага...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ШАШКІ

**У гэтым нумары змяшчаем апошнія заданні нашага конкурсу па шашках:**

**Заданне 9**
Белыя: a3, b2, f2, f4, g1, h2, h4, (7).
Чорныя: a7, d2, d6, e7, g7, h6 (6).

**Заданне 10**
Белыя: a7, c1, c3, d2, d4, e1, e5, h6 (8).
Чорныя: a3, a5, b8, c7, f2, f8, g3, g7 (8).

У абедзвюх пазіцыях белыя пачынаюць і выйграюць. Рашэнне дасылайце на працягу двух тыдняў па адрасе: Рэдакцыя "Газеты Слонімскай", вул. Я.Купалы, 5, Слонім, 231800 (з паметкай "Шашкі").

**Рашэнні заданняў, апублікаваных у "ГС" 8 красавіка 1999 года.**

**Заданне 7**
1. b6-c7, d8-b6
2. e1-f2, b6, a5 (калі 2... h2-g1, то 3. h6-f8 з выйгрышам).
3. f2-g3, h2-f4
4. h6-d2, e7-f6
5. d2-c3, f6-g5
6. c3-d2, g5-h4
7. d2-e1

**Заданне 8**
1. c1-b2, a3-c1
2. c3-d4, e5-e1
3. e3-f4, c1-g5
4. h4-f6, e7-g5 (калі 4... g7-e5, то 5. g3-h4, e1-g3, 6. h2-b8x)
5. g3-h4, e1-g3
6. h4-f6, g7-e5
7. h2-b8 з выйгрышам

Правільныя рашэнні гэтых заданняў даслалі: Уладзімір Захарчук, Сяргей Чэкан (Слонім), Аляксей Журовіч, Юрый Журовіч, Марына Малінка, Васіль Шчаюк (в.Рахавічы), Міхаіл Лойка (в.Навасёлкі Дзераўноўскага с/с), Аляксандр Блізнюк (в. Новыя Дзевяткавічы).

**Аляксандр АНІСЬКА, кандыдат у майстры спорту**

## Дзяўчаты выступілі лепш

**У Клімавічах Магілёўскай вобласці адбыўся рэспубліканскі турнір па шашах "Боль Чарнобыля-99".**

У асабістым заліку паспяхова выступілі слонімскія дзяўчаты. Аня Барысік заняла першае месца, а Каця Амагамедава была другой, выканаўшы пры гэтым норму другога разраду.

**Аляксандр АНІСЬКА**